# Задачнік

Фармаванне матэматычных паняткаў
шляхам рашэння тэкставых задач

## Задачы на знаходжанне астатку

1. У вазе ляжала 18 шакаладных цукерак і 16 ірысак. Алесь з'еў 3 шакаладныя цукеркі і 6 ірысак. Колькі ўсяго цукерак засталося ў вазе?

| | |
|---|---|
| Малюнак | 18 ш. ц 16 ір. 3 ш. ц ? ц. 6 ір. |
| Рашэнне | |
| Адказ | ______ *цукерак засталося ў вазе.* |

2. У бочцы было 37 л паліва. З яе ўзялі 2 разы па 9 л. Колькі літраў паліва засталося ў бочцы?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | ______ *паліва засталося ў бочцы.* |

АЦАНІЦЬ СЯБЕ

КОЛЬКАСЦЬ ПАМЫЛАК АЦЭНКА

3. У кошыку было 20 яблыкаў.Мама ўзяла 4 яблыкі для кампоту і 10 яблыкаў на піражкі. Колькі яблыкаў засталося ў кошыку?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | ______ *яблыкаў засталося ў кошыку.* |

4. У аўтобусе ехала 77 чалавек. На прыпынку некалькі чалавек выйшлі, пасля гэтага ў аўтобусе засталося 29 чалавек. Колькі чалавек выйшла на прыпынку?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | ______ *чалавек выйшла на прыпынку.* |

АЦАНІЦЬ СЯБЕ

КОЛЬКАСЦЬ ПАМЫЛАК

АЦЭНКА

5. Было 7 скрыняў грушаў і 9 скрыняў сліваў. Прадалі 16 кг грушаў і 11 кг сліваў. Колькі садавіны засталося, калі адна скрыня змяшчае 3 кг садавіны?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | ______ *кг садавіны засталося.* |

6. У бочцы 70 л пабелкі. На пабелку аднаго дрэва ідзе 3 л. Пабялілі 12 яблынь, і яшчэ засталося пабяліць 11 грушаў. Колькі літраў пабелкі застанецца?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | ______ *літраў пабелкі застанецца.* |

АЦАНІЦЬ СЯБЕ

КОЛЬКАСЦЬ ПАМЫЛАК

АЦЭНКА

7. На паліцы стаяла 16 сшыткаў і 27 кніг. Алесь паклаў у заплечнік 11 сшыткаў і 8 кніг. Колькі сшыткаў і кніг засталося стаяць на паліцы?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | ______ *сшыткаў і*<br>______ *кніг засталося стаяць на паліцы.* |

8. Купілі 4 дзесяткі яек. Частка яек пайшла на крэм, 1 дзесятак дадалі ў салат. Застаўся дзесятак і 7 яек. Колькі яек выкарысталі на крэм?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | ______ *яек выкарысталі на крэм.* |

АЦАНІЦЬ СЯБЕ

КОЛЬКАСЦЬ ПАМЫЛАК | АЦЭНКА

9. З градкі назбіралі 48 кг трускавак, 2 кг ягад з’елі адразу, 23 кг пайшло на варэнне, а 16 кг замарозілі. Колькі кілаграмаў трускавак засталося?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | _______ *кілаграмаў трускавак засталося.* |

10. У адной скрыначцы 18 крэйдак, а ў другой у 2 разы меней. З першай скрыначкі 7 крэйдак пераклалі ў другую. Дзе крэйдак больш і на колькі?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | *У* ______ *скрыначцы на* _______ *больш.* |

**АЦАНІЦЬ СЯБЕ**

КОЛЬКАСЦЬ ПАМЫЛАК

АЦЭНКА

11. Пасля таго як пасадзілі палову ўсіх саджанцаў, а потым яшчэ 9, засталося пасадзіць 17 саджанцаў. Колькі ўсяго саджанцаў трэба было пасадзіць?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | ______ *саджанцаў трэба было пасадзіць.* |

12. У рулоне 73 м тканіны. Трэба пашыць 9 касцюмаў і 10 спадніц. На касцюм выкарыстоўваецца 5 м тканіны, а на спадніцу 2 м. Колькі тканіны застанецца пасля пашыўкі?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | ______ *тканіны застанецца пасля пашыўкі.* |

АЦАНІЦЬ СЯБЕ

КОЛЬКАСЦЬ ПАМЫЛАК

АЦЭНКА

13. У краме было 30 скрыначак з алоўкамі, па 3 алоўкі ў кожнай. Спачатку прадалі 21 аловак, а потым прадалі на 8 скрыначак больш. Колькі скрыначак з алоўкамі засталося?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | ______ *скрыначак з алоўкамі засталося.* |

14. На зіму купілі 3 мяхі бульбы. За 3 месяцы з’елі 69 кг, а пазней яшчэ 9 кг. Колькі бульбы засталося, калі вядома, што 1 мех змяшчае 30 кг?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | ______ *кг бульбы засталося.* |

АЦАНІЦЬ СЯБЕ

КОЛЬКАСЦЬ ПАМЫЛАК АЦЭНКА

15. На дзвюх клумбах разам распусцілася 19 цюльпанаў. Калі з адной клумбы зрэзалі 3 цюльпаны, кветак на дзвюх клумбах стала пароўну. Колькі цюльпанаў было на клумбах першапачаткова?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | ______ *было на клумбах першапачаткова.* |

16. На адной клумбе распусцілася 54 ружы,а на другой у 3 разы менш. З першай клумбы зрэзалі 26 ружаў, а з другой у 2 разы меней. Колькі ружаў засталося на кожнай клумбе?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | ______ *ружаў засталося на першай клумбе і*<br>______ *ружаў засталося на другой клумбе.* |

АЦАНІЦЬ СЯБЕ

КОЛЬКАСЦЬ ПАМЫЛАК

АЦЭНКА

## Геаметрычныя задачы

1. Намалюй адрэзак AB даўжынёй 75 мм. Падзялі яго на 3 роўныя адрэзкі. Запішы, якія адрэзкі атрымаліся. Вызначы іх даўжыню.

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | ________ *мм даўжыня кожнага з адрэзкаў.* |

2. Бок квадрата роўны 9 см. Колькі складзе перыметр квадрата? Рашы рознымі спосабамі, карыстаючыся дзеяннямі складання і множання.

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | ________ *см перыметр квадрата.* |

АЦАНІЦЬ СЯБЕ

КОЛЬКАСЦЬ ПАМЫЛАК АЦЭНКА

3. Прамавугольны ўчастак трэба агарадзіць дротам. Даўжыня ўчастка складае 31 м, а шырыня на 17 м меншая. Колькі дроту спатрэбіцца?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | _______ *м дроту спатрэбіцца.* |

4. Адзін бок роўнабедранага трохкутніка адпавядае 18 дм, а два другіх у 2 разы меншыя. Чаму роўны перыметр трохкутніка?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | _______ *дм перыметр трохкутніка.* |

АЦАНІЦЬ СЯБЕ

КОЛЬКАСЦЬ ПАМЫЛАК

АЦЭНКА

5. Даўжыня кожнага боку роўнабаковага трохкутніка роўная 9 см. Вылічы перыметр трохкутніка, выкарыстоўваючы дзеянні складання і множання.

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | _______ *см перыметр трохкутніка.* |

6. Шырыня прамавугольніка роўная 4 дм, а даўжыня на 7 см большая. Знайдзі перыметр прамавугольніка.

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | _______ *дм* _______ *см перыметр прамавугольніка.* |

АЦАНІЦЬ СЯБЕ

КОЛЬКАСЦЬ ПАМЫЛАК

АЦЭНКА

7. Даўжыня прамавугольніка 7 см, а шырыня 1 см. Вылічы перыметр прамавугольніка. Якой даўжыні будзе бок квадрата з такім сама перыметрам?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | ________ *см даўжыня боку квадрата.* |

8. Шырыня прамавугольніка 2 см, а ягоная даўжыня ў 3 разы большая. Вызначы плошчу і перыметр прамавугольніка.

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | ________ *см плошча прамавугольніка і*<br>________ *см перыметр прамавугольніка.* |

АЦАНІЦЬ СЯБЕ

КОЛЬКАСЦЬ ПАМЫЛАК

АЦЭНКА

9. Даўжыня прамавугольніка 1 дм 6 см, а шырыня 7 см. Вылічы перыметр прамавугольніка.

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | ______ *дм* ______ *см перыметр прамавугольніка.* |

10. Даўжыня першага адрэзка 2 см, даўжыня другога ў 3 разы большая, а даўжыня трэцяга такая, што першы адрэзак укладаецца ў яго 5 разоў. Вылічы даўжыню адрэзкаў.

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | ______ *см даўжыня першага адрэзка,*<br>______ *см даўжыня другога адрэзка і*<br>______ *см даўжыня трэцяга адрэзка.* |

АЦАНІЦЬ СЯБЕ

КОЛЬКАСЦЬ ПАМЫЛАК АЦЭНКА

11. Агароджа мае форму прамавугольніка. Шырыня агароджы 15 м. Вылічы даўжыню агароджы, калі яе перыметр складае 94 м.

| | |
|---|---|
| Малюнак<br><br>Рашэнне | |
| Адказ | _______ *м даўжыня агароджы.* |

12. Перыметр квадрата 32 см. Вылічы даўжыню прамавугольніка, калі ягоная шырыня 4 см, а перыметр роўны перыметру квадрата.

| | |
|---|---|
| Малюнак<br><br>Рашэнне | |
| Адказ | _______ *см даўжыня прамавугольніка.* |

**АЦАНІЦЬ СЯБЕ**

**КОЛЬКАСЦЬ ПАМЫЛАК** | **АЦЭНКА**

## Задачы на рух

1. Веласіпедыст ехаў з хуткасцю 9км/г і быў у дарозе 4 г. колькі часу спатрэбіцца пешаходу, каб прайсці такую ж адлегласць, калі ягоная хуткасць 6 км/г?

| | |
|---|---|
| Малюнак | 9 км/г → ← 6 км/г |
| Рашэнне | |
| Адказ | _______ *г спатрэбіцца пешаходу.* |

2. Пешаход за 2 г прайшоў 12 км. Хуткасць лыжніка на 9 км/г большая чым у пешахода. Колькі часу спатрэбіцца пешаходу і лыжніку, каб прайсці 30 км?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | _______ *г спатрэбіцца пешаходу і*<br>_______ *г лыжніку.* |

АЦАНІЦЬ СЯБЕ

КОЛЬКАСЦЬ ПАМЫЛАК АЦЭНКА

3. Матацыкл за 2 г праязджае 50 км, а скутэр праязджае за адну гадзіну на 5 км меней. Колькі часу спатрэбіцца матацыклу і скутэру, каб праехаць 100 км?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | _______ *г спатрэбіцца матацыклу і*<br>_______ *г скутэру.* |

4. Два хлопчыкі знаходзіліся на адлегласці 90 м адзін ад другога і адначасова пабеглі насустрач. Яны сустрэліся праз 10 с. Першы бег з хуткасцю 4м/с. З якой хуткасцю бег другі хлопчык?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | _______ *м/с бег другі хлопчык.* |

АЦАНІЦЬ СЯБЕ

КОЛЬКАСЦЬ ПАМЫЛАК АЦЭНКА

5. Човен праплыў 24 км за 2 г. Колькі часу спатрэбіцца чоўну, каб праплыць увесь шлях, які складае 60 км?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | ______ *г спатрэбіцца чоўну, каб праплыць увесь шлях.* |

6. За першы дзень валацуга за 5 г прайшоў 30 км. На другі дзень ішоў спачатку 3 г, а потым яшчэ 4 г. Колькі кіламетраў ён прайшоў, калі ішоў з аднолькавай хуткасцю?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | ______ *км прайшоў валацуга.* |

АЦАНІЦЬ СЯБЕ

КОЛЬКАСЦЬ ПАМЫЛАК

АЦЭНКА

7. Ад месца працы да крамы 6 км, а ад крамы да хаты на 3 км. болей. За 2 г мама праходзіць 10 км. Колькі часу спатрэбіцца маме на дарогу?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | _______ г _______ мін спатрэбіцца маме на дарогу. |

8. З розных гарадоў насустрач адзін аднаму выехалі два веласіпедысты. Першы праехаў да сустрэчы 9 км, а другі ў 2 разы болей. Якая адлегласць паміж гарадамі?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | _______ км адлегласць паміж гарадамі. |

АЦАНІЦЬ СЯБЕ

КОЛЬКАСЦЬ ПАМЫЛАК АЦЭНКА

9. У адзін той сама час у супрацьлеглых кірунках выйшлі два пешаходы. Хуткасць аднаго 5 км/г, а іншага 6 км/г. Праз колькі часу паміж імі будзе 33 км?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | *Праз _______ г паміж імі будзе 33 км.* |

10. Адлегласць паміж Валяй і Міколкам роўная 20 км. За адну гадзіну Валя праходзіць 4 км, а Міколка 5 км. Якая адлегласць будзе паміж імі праз гадзіну?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | *_______ км будзе паміж Валяй і Міколкам праз гадзіну.* |

АЦАНІЦЬ СЯБЕ

КОЛЬКАСЦЬ ПАМЫЛАК

АЦЭНКА

11. Два пешаходы выйшлі насустрач адзін аднаму з дзвюх вёсак, адлегласць паміж якімі 26 км. Хуткасць першага 5 км/г, а другога 7 км/г. Праз колькі гадзін паміж імі будзе 14 км?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | *Праз _______ г паміж пешаходамі будзе 14 км?* |

12. Човен з рухавіком праплыў 40 км па цячэнні за 2 г, а супраць цячэння за гэты ж час – 24 км. Вылічы хуткасць чоўна па цячэнні і супраць цячэння.

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | _______ *км/г хуткасць чоўна па цячэнні і*<br>_______ *км/г супраць цячэння.* |

АЦАНІЦЬ СЯБЕ

КОЛЬКАСЦЬ ПАМЫЛАК

АЦЭНКА

13. Адначасова насустрач адзін аднаму выйшлі два катэры. Хуткасць катэра ў стаячай вадзе 18 км/г. Праз колькі часу яны сустрэнуцца, калі хуткасць цячэння ракі 2 км/г, а адлегласць паміж прыстанямі 72 км?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | *Праз ________ г яны сустрэнуцца.* |

14. Веласіпедыст за 3 г праязджае 36 км, а пешаход праходзіць за адну гадзіну на 6 км меней, за веласіпедыста. Колькі кіламетраў пройдзе пешаход за 3 г?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | ________ *км пройдзе пешаход за 3 г.* |

АЦАНІЦЬ СЯБЕ

КОЛЬКАСЦЬ ПАМЫЛАК АЦЭНКА

15. Хуткасць цячэння ракі 2 км/г. На колькі кіламетраў вада аднясе карабель за 3 г, за 12 г?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | *На _______ км вада аднясе карабель за 3 г, на _______ км за 12 г.* |

16. Адначасова з двух гарадоў насустрач адзін аднаму выехалі два аўтобусы. Хуткасць першага 50 км/г, а другога 60 км/г. Першы аўтобус праехаў да сустрэчы 100 км. Колькі праехаў да сустрэчы другі аўтобус?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | *_______ км праехаў да сустрэчы другі аўтобус.* |

АЦАНІЦЬ СЯБЕ

КОЛЬКАСЦЬ ПАМЫЛАК

АЦЭНКА

## Задачы на вызначэнне кошту, колькасці, вартасці

1. У сталоўцы спяклі 12 піражкоў з варэннем і 13 піражкоў з бульбай. Адзін піражок з бульбай каштуе 3 тысячы рублі, а адзін з варэннем – 5 тысяч рублёў. Колькі каштуюць усе піражкі?

| | |
|---|---|
| Малюнак | 12 п. – ? руб. 13 п. – ? руб.<br>? руб. |
| Рашэнне | |
| Адказ | _______ *тысяч рублёў каштуюць усе піражкі.* |

2. Дзве кнігі каштуюць 46 тысяч руб., а 4 сшыткі на 14 тысяч рублёў танней. На колькі рублёў сшытак танней за кнігу?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | *На _______ тысяч рублёў сшытак танней за кнігу.* |

АЦАНІЦЬ СЯБЕ

КОЛЬКАСЦЬ ПАМЫЛАК АЦЭНКА

3. У краму прывезлі 27 кг вінаграду ў скрынях, па 3 кг у кожнай. Адна скрыня вінаграду каштуе 10 тысяч руб. Колькі каштуе ўвесь вінаград?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | _______ *тысяч рублёў каштуе ўвесь вінаград.* |

4. Адзін кілаграм яблыкаў каштуе 2 тысячы руб. Было 20 кг яблыкаў. Прадалі 4 разы па 2 кг яблыкаў. Колькі грошай атрымалі за прададзеныя яблыкі? Колькі кг. яблыкаў засталося?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | _______ *кг яблыкаў засталося.* |

АЦАНІЦЬ СЯБЕ

КОЛЬКАСЦЬ ПАМЫЛАК АЦЭНКА

5. У мамы было 97 тысяч руб. Яна купіла 2 дзесяткі яек, адзін дзесятак каштуе 12 тысяч руб., і 3 л малака, адзін літр малака каштуе 9 тысяч руб. Колькі грошаў засталося ў мамы?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | ________ *тысячаў рублёў засталося ў мамы.* |

6. У школу купілі 3 кнігі па матэматыцы па 9 тысяч руб. і 4 кнігі па біялогіі. За ўсё заплацілі 71 тысячу руб. колькі каштуе адна кніга па біялогіі?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | ______ *тысяч рублёў каштуе адна кніга па біялогіі.* |

АЦАНІЦЬ СЯБЕ

КОЛЬКАСЦЬ ПАМЫЛАК

АЦЭНКА

7. У дзіцячы садок купілі 4 канструктары па 7 тысяч руб. за кожны і некалькі самаходзікаў па 9 тысяч руб. за ўсе пакупкі заплацілі 55 тысяч руб. Колькі купілі самаходзікаў?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | *Купілі _______ самаходзікаў.* |

8. У адной скрыначцы 10 алоўкаў, а ў іншай на 3 алоўкі меней. Цана за адзін аловак 2 тысячы руб. Колькі каштуюць усе алоўкі?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | _______ *тысяч рублёў каштуюць усе алоўкі.* |

АЦАНІЦЬ СЯБЕ

КОЛЬКАСЦЬ ПАМЫЛАК АЦЭНКА

9. У краму прывезлі 8 пар мужчынскага абутку. Прадалі 6 пар і атрымалі 720 тысяч руб. Колькі рублёў каштуе ўвесь абутак?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | ________ *тысяч рублёў каштуе ўвесь абутак.* |

10. Мама купіла 5 кг трускавак па 7 тысяч руб. за кілаграм і 3 кг суніц па 11 тысяч руб. за кілаграм. Колькі каштавалі ўсе пакупкі разам?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | ________ *тысяч рублёў каштавалі ўсе пакупкі разам.* |

АЦАНІЦЬ СЯБЕ

КОЛЬКАСЦЬ ПАМЫЛАК АЦЭНКА

11. За 6 паштовых марак заплацілі 24 тысячы руб., а за 5 паштовак на 11 тысяч руб. даражэй. Колькі каштуе адна паштовая марка і адна паштоўка?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | _____ *тысяч рублёў каштуе адна паштовая марка і* _______ *тысяч рублёў адна паштоўка.* |

12. Асадка каштуе 15 тысяч руб. Колькі спатрэбіцца грошай, каб набыць 6 такіх асадак? Колькі асадак можна будзе набыць на 60 тысяч рублёў?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | _______ *асадак можна будзе набыць на 60 тысяч рублёў.* |

АЦАНІЦЬ СЯБЕ

КОЛЬКАСЦЬ ПАМЫЛАК

АЦЭНКА

13. За 2 м ядвабу (шоўку) і 3 м воўны краўчыха заплаціла 65 тысяч рублёў. Адзін метр воўны каштуе 9 тысяч руб. Колькі каштуе метр ядвабу?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | _______ *тысяч рублёў каштуе метр ядвабу.* |

14. За 3 футбольныя мячы заплацілі 39 рублёў, а за 4 баскетбольныя – на 24 тысячы болей. На колькі рублёў баскетбольны мяч даражэйшы за футбольны?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | *На _______ тысяч рублёў баскетбольны мяч даражэйшы за футбольны.* |

АЦАНІЦЬ СЯБЕ

КОЛЬКАСЦЬ ПАМЫЛАК

АЦЭНКА

15. Мама дала Леры 4 банкноты па 100 тысяч. Колькі сшыткаў зможа купіць Лера, калі адзін сшытак каштуе 120 тысяч? Колькі будзе рэшты?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | _______ *тысяч рублёў рэшты.* |

16. У Францішка было 160 тысяч. Ён купіў 4 капэрты і ў яго засталося 52 тысячы. Колькі грошай спатрэбіцца Францішку, каб набыць 9 капэртаў?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | _______ *тысяч спатрэбіцца Францішку, каб набыць 9 капэртаў.* |

АЦАНІЦЬ СЯБЕ

КОЛЬКАСЦЬ ПАМЫЛАК

АЦЭНКА

